

І сказаў Бог: хай уродзіць зямля зеляніну, траву, каб сеяла насенне яго на зямлі. І сталася так. І ўбачыў Бог, што гэта добра. (Быццё 1:11)

# Свет раслінаў

# Аддзелы Царства раслінаў

ВОДАРАСЦІ або БАГАВІННЕ



ЛІШАЙНІКІ



МОХІ



ПАПАРАЦЬ



ІГЛІЧНЫЯ РАСЛІНЫ



КВЕТКАВЫЯ РАСЛІНЫ



# Роля раслінаў




Госпад запоўніў раслінамі Зямлю і падарыў іх нам. Мы атрымліваем асалоду ад іх прыгажосці, ужываем у ежу плады, зяляніну, зерневы хлеб і дзякуем Богу за штодзённую ежу.
Расліны даюць будаўнічыя матэрыялы, вопратку і ачышчаюць паветра. Перапрацоўваюць вуглякіслы газ, ствараючы кісларод для дыхання жывёлаў і чалавека, а таксама пажыўныя рэчывы.




Большасць раслін, якія мы бачым вакол сябе, адносяцца да аддзелу кветкавых або пакрытанасенных. Назвы указваюць на галоўную асаблівасць гэтых раслін: яны размножваюцца насеннем, якое ўтвараецца ў кветках і хаваецца ўнутры пладоў.

Кветкавыя расліны маюць чатыры асноўных органа, кожны з якіх выконвае важную задачу

# Часткі кветкавых раслінаў

## КОРАНЬ



З дапамогай каранёў расліны трымаюцца за зямлю і атрымліваюць з глебы ваду і пажыўныя мінеральныя рэчывы. Даўжыня каранёў можа дасягаць 100 метраў у глыбіню.

## ЯДОМЫЯ КАРЭНЬЧЫКІ



цыбуля



буракі



радыс

## СЦЯБЛО



Сцябло з’яўляецца апорай, да якой мацуюцца астатнія органы. Ён таксама пераносіць ваду ад каранёў да іншых частак раслін.

# ЛІСТ


Звычайны ліст


Ігліца

Лісце раслін утварае пажыўныя рэчывы і насычае паветра кіслародам.
Лісце хвоі і ядлоўца называецца ігліцай. А самі гэтыя расліны ігліцнымі.

Ліст складаецца з чаранка і ліставай пласцінкі.
Калі пласцінка адна, то ліст называецца простым.
Калі пласцінак некалькі, ліст называецца складаным.




Просты ліст


Складаны ліст

Дзіўнае і прыгожае лісце гарлачыка Вікторыі, якая расце ў Паўднёвай Амерыцы. Яно бывае каля 2 метраў у дыяметры.




У зялёным лісце адбываюцца дзіўныя пераўтварэнні. З вуглякіслага газу, сонечнага святла і вады ліст выпрацоўвае пажыўныя рэчывы, з якіх будуецца расліна. Лісце выпрацоўвае кісларод, якім мы дыхаем.

# Фотасінтэз

# КВЕТКА

**Кветкі створаныя, каб даваць плод і семя, а таксама радаваць чалавека. Самыя маленькія кветкі маюць памер усяго 1 мм. Як кветкі воднай Расянкі. Самая вялікая кветка – Рафлезія – расце ў трапічных лясах Азіі. Яе памер дасягае 91 см, важыць Рафлезія каля 11 кг.**

## БУДОВА КВЕТКІ








Касмея



Астра



Шпажнікі



Аксамліткі



Календула



Нарцыс



Браткі



Цюльпан



Лілея



Ружа



Рамонак



Валошка



# АПЫЛЕННЕ

**З кветкі ўтвараецца плод і насенне.**
**Каб атрымаўся плод павінна адбыцца апыленне – перанос пылка з тычынкі на песцік, дзе ўтвараецца завязь і плод.**









**Большасць кветак апыляюцца насякомымі, таму яны прыгожыя і прыемна пахнуць.**
**Але некаторыя расліны апыляюцца ветрам ці вадою. Іх кветкі звычайна незаўважныя, а пылок вельмі лёгкі.**



# ПЛАДЫ І НАСЕННЕ

Плады заўсёды ўтвараюцца на месцы кветак. У плодзе знаходзіцца насенне. Плод абараняе яго ад пашкоджанняў, замярзання і засыхання, дапамагае насенню перанесціся на большыя адлегласці. Насенне дае жыццё новай расліне.



## Віды пладоў

Плады могуць быць сакавітымі і сухімі, мець адно семя або шмат.





Крылатка



Зярноўка



Касцянка



Сямянка



Скрыначка



Гарэх



Боб



Ягада

З насення можа вырасці толькі тая расліна, якая парадзіла семя. Стварэннем новых сартоў займаюцца навукоўцы-селекцыянеры, але нават яны не могуць з капусты вырасціць яблыкі.

# Як распаўсюджваецца насенне

## Распаўсюд ветрам

**Ветрам распаўсюджваюцца плады дзьмухаўца, сасны, клёна, ліпы і некаторых іншых. Плады такіх раслінаў сухія, лёгкія і маюць прыстасаванні для палёту: парашуцікі, пушыстыя валаскі або крылцы.**





ліпа і дзьмухавец

## Распаўсюд вадой

**З дапамогай вады распаўсюджваецца насенне лотасу, ясеню, какосавай пальмы, чароту.  Насенне трапляе ў раку або мора і плыве да іншага берага, дзе з яго вырастае новая расліна. Плады какосавай пальмы падарожнічаюць па берагах мораў. Калі марскія хвалі прыб'юць іх да берага і плод патрапіць на пясок, то з яго могуць вырасці пальмы.**



мячэўнік



трыпутнік

## Самастойны распаўсюд

**У прыродзе сустракаецца нямала раслін, якія могуць самі рассейваць сваё насенне. Пры выспяванні іх плады раскрываюцца і насенне разлятаецца ў розныя бакі. Такім спосабам адбываецца распаўсюджванне насення ў фіялкі, гарошку, акацыі.**



шалёны гурок



мышыны гарошак

## Распаўсюд чалавекам і жывёламі

Часам насенне знаходзіцца ў сакавітым плодзе. Яркія, смачныя плады чаромхі, маліны, каліны прыцягваюць жывёл і птушак. Яны ядуць плады, а разам з імі і насенне. Плод пераварваецца, а насенне – не. Яны выходзяць неператраўленымі. Так насенне апыняецца ў глебе.

Насенне многіх раслін разносяць насякомыя. Напрыклад, мурашак прыцягваюць сакавітыя кветкі чыстацела і фіялкаў. Мурашы заносяць плады ў мурашнік, а насенне, застаючыся няз'едзеным, выносіцца вонкі.

Распаўсюджванню пладоў і насення спрыяюць жывёлкі – вавёркі, бурундукі – якія рыхтуюць іх на запас. Нез’едзенае або страчанае насенне пры спрыяльных умовах нярэдка прарастае.







Сухія плады некаторых раслін маюць чаплялкі. Напрыклад, насенне лапуха і ваўчкоў,  якое чапляюцца таксама да вопраткі, поўсці жывёл, пёраў птушак, і, такім чынам, пераносяцца на новыя месцы.





# Жыццёвыя формы раслін

**Жыццёвай формай называецца знешні воблік расліны, прыстасаваны да ў моваў іх існавання**


Хмызнякі, кусты


дрэвы


травы

**У адрозненні ад хмызнякоў і дрэваў, у траваў няма цвёрдых наземных частак, якія здольныя ператрываць маразы або спёку. Таму сцеблы і лісты адміраюць, як толькі скончваюцца спрыяльныя ўмовы. Некаторыя травы жывуць толькі адзін сезон – аднагадовыя, іншыя здольныя захоўваць корань і расці некалькі гадоў – шматгадовыя. Травы могуць дасягаць вышыні 3 метраў. Вядомыя вам бананы і ананасы – травяністыя расліны. Самай высокай травою з'яўляецца бамбук.**


банан


бамбук

# Дрэвы і хмызнякі

**Дрэвы** маюць галоўнае цвёрдае і трывалае сцябло – **ствол**. Калі адзервяноўшых сцвалоў у расліны некалькі або шмат, яны амаль аднолькавыя па шырыні – гэта **куст** або **хмызняк.** Галіны дрэва разам з лісцем утвараюць **крону.**

Дрэвы і хмызнякі – шматгадовыя расліны. Сцвалы хмызнякоў змяняюцца раз на некалькі год. Некаторыя дравесныя расліны ў розныя перыяды жыцця, а таксама ў залежнасці ад прыродных умоваў могуць сустракацца як у форме хмызняка, так і ў форме дрэва.

У дравеснага сцябла ёсць верхні слой – кара, які захоўвае драўніну ад пашкоджанняў

## Будова дрэва








Ядловец у выглядзе дрэва і хмызняка

Іглічныя дрэвы застаюцца зялёнымі і зімой, і летам, нават на час халадоў не скідаюць іголкі, акрамя лістоўніцы.

# Іглічныя дрэвы

## САСНА



Гэта вельмі святлалюбнае дрэва. Яно з усіх сіл цягнецца да сонца, таму вырастае да 45 метраў. Раней з высокіх ствалоў сасны рабілі карабельныя мачты. Пахі сасны забіваюць мікробаў.

## СІБІРСКІ КЕДР



Да сямейства сасны належыць таксама сібірскі кедр, які славіцца сваімі кедравымі арэшкамі – гэта каштоўны карысны прадукт і для чалавека, і для дзікіх жывёл.

## ЕЛКА



Елка дае чалавеку вельмі шмат. З яе драўніны робяць паперу, мэблю, дошкі і нават музычныя інструменты.
Яловая igліца багатая вітамінамі. З іглiцы елкі робяць вітамінавыя настоі і экстракты для ваннаў.

## ЛІСТОЎНІЦА



Лістоўніца – вельмі цікавае дрэва. Іголкі ў лістоўніцы мяккія і ападаюць кожную восень. Драўніна не паддаецца гніенню ў зямлі і нават у вадзе, таму раней з яе рабілі палі для мастоў.

Ліставыя дрэвы маюць лісце. Увосень яно ападае, таму ўзімку дрэвы застаюцца голыя. Але вясной на галінках зноў з'яўляюцца пупышкі і з іх вырастаюць новыя лісты.

# Ліставыя дрэвы

БЯРОЗА



ДУБ



ВЯРБА



Белая кара дапамагае бярозе не пераграvaцца ў гарачыя летнія дні і не пераахалоджвацца ў моцныя маразы. Бярозавыя покаўкі дапамагаюць пры хваробах лёгкіх, печані і нырак. З бярозавай кары плятуць лапці, кошыкі і сувеніры.
Дуб можа пражыць 2 тысячы гадоў. Дуб пакрываецца лісцем самым апошнім з усіх дрэў. Плады дуба – жалуды – корм для дзікіх жывёл і птушак.
Вярба мае тонкія, гнуткія галінкі, з якіх робяць кошыкі і плеценую мэблю. Вярба часта расце ля вадаёмаў, звесіўшы свае галінкі да вады. Першыя веснік вясны – вярба – яна зацвітае раней за ўсе дрэвы.

# Ліставыя дрэвы

Таполю часта саджаюць у горадзе, бо яна выдатна чысціць паветра ад шкодных рэчываў. У ліпені таполя пачынае квітнець і паўсюль лётае таполевы пух, падобны на белы снег.
Ліпу называюць "мядовае" дрэва. Ліпавы мёд лічыцца самым смачным і карысным. Кветкі ліпы засушваюць, а потым гатуюць "ліпавую" гарбату – добры сродак ад прастуды. Ліпа дае шмат кіслароду: у 3 разы больш, чым елка.
Лісце асіны дрыжыць нават без ветра. З асіны атрымліваецца выдатны драўляны посуд.
Кляновы сок утрымлівае больш цукру, чым сок любога іншага дрэва. У Канадзе робяць кляновы сіроп і кляновы цукар.












# Пладовыя дрэвы
























"Чытаем кнігу прыроды" – гэта цікавыя прэзентацыі і дапаможныя матэрыялы па геаграфіі, біялогіі, фізіцы, астраноміі, каб нашыя дзеці ведалі пра магутнасць і прыгажосць Бога і пра Яго цудоўны план для нас...

Ідэя і аўтар тэксту – Надзея Гарэцкая
Рэдагаванне і стыль – Вольга Севярынец